


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

3 студзеня 2003 года

№ 1 (402)
Выходзіць па пятніцах

ПЛЮС Тэлетыдзень



Навіны рэгіёна

## Дзяцей гадуюць таты

СМАРГОНЬ. У тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнага абслугоўвання на даму "Цёплы дом" адбыўся першы сход бацькоў, якія адны выхоўваюць дзяцей.

Дапамагай адзінокім татам займаецца загадчыца аддзялення інфармацыі пярвічнага прыёму і аналізу Святлана Норык. На першую сустрэчу прыйшло 10 мужчын. Усяго ў раёне 49 адзінокіх бацькаў. Яны выхоўваюць 67 дзяцей ва ўзросце ад 3-х гадоў.

Ірына РАБУШКА.

## Гараць Крывічы

МЯДЗЕЛ. Нядаўна ў Крывічах згарэла музычная школа, а на мінулым тыдні загаранне было яшчэ ў адной установе — бальніцы. Загарэўся будынак, што стаіць асобна ад яе асноўнага памяшкання. Там знаходзіцца зубапратэзны кабінет, кухня, склады. Добра, што ў гэтым выпадку будынак моцна не пацярпеў і ўсё абсталяванне выратавалі.

Алесь ВЫСОЦКІ.

## Піяніна і 7 дываноў

МАЛАДЗЕЧНА. 27 снежня адкрыўся новы дзіцячы сад у Хвасці. Туды прыйдуць 120 малечкоў. Пакуль сад працуе не на поўную моц.

Ад аблвыканкома сад атрымаў у падарунак піяніна, ад Міністэрства адукацыі – музычны цэнтр, ад райвыканкома – 7 дываноў.

Не засталася без падарункаў і Радашкавіцкая СШ. У гэты ж дзень тут адкрыўся медыцынскі блок. Цяпер у дзяцей ёсць пакой для аздараўлення, працэдурны кабінет, басейн, лазня.

Ірына РАБУШКА

## ЗАГС без вяселляў

ВІЛЕЙКА. 20 дзён у раённым ЗАГСе ніхто не будзе браць шлюб.

Апошнія 4 пары распісаліся 21 снежня 2002 года. І толькі 11 студзеня 2003 года зноў прыйдуць маладыя. Загадчыца ЗАГСа Марыя Вялічка тлумачыць гэта тым, што людзі сталі больш прытрымліваццa традыцый. А цяпер пост.

Ірына РАБУШКА.

## Стаў чэмпіёнам

МЯДЗЕЛ. Мядзелец, студэнт Акадэмічнага універсітэта Валянцін Бабровіч, выйграў чэмпіянат рэспублікі па армрэслінгу сярод дарослых у вагавай катэгорыі да 65 кілаграмаў. Прычым, удалося яму стаць першым у паядынках на абедзвюх руках.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# Елачка з Папоўкі

**ВАЛОЖЫН. Упершыню ў дзіцячай установе закрасавала штучная навагодняя ёлачка. І адбылося гэта не з-за недаступнасці жывой прыгажуні, а менавіта з-за прынцыпу – жывая елка павінна жыць. У дзіцячым садзе № 5, што на ўскраіне Валожына, у Папоўцы, такая прыгажуня расце ля ўваходу ўжо 11 гадоў.**

Дзіцячы сад, работай якога сёння кіруе Валянціна Залеская, пабудаваны каля 20 год таму, з 1997 года ён вызначаны як базавы па экалагічнай адукацыі дашкольнікаў на Валожыншчыне.

Вельмі складана было, на думку педагогаў, з аднаго боку выхоўваць дзяцей у павазе і любові да прыроды, а з іншага – ладзіць навагоднія ранішнікі і калядкі ля ссечанай у лесе елачкі. А чаму б не паставіць дзеткам у садзе штучную ёлачку, тым больш, што побач з будынкам сада расце сапраўдная жывая прыгажуня?

На самой справе, гэтая задача не з простых. І справа не ў тым, што штучная ёлка даражэй за жывую, – урэшце, дапамагла раённая інспекцыя па навакольнаму асяроддзю і экалогіі, якая купіла дзеткам ёлку за немалыя сёння грошы – 167 тысяч рублёў. Галоўнае – атрымаць на гэта дазвол пажарных.

Існуючая практыка дазваляе ладзіць масавыя мерапрыемствы толькі з натуральнай ёлкай. Тым не менш кампраміс быў знойдзены. І не на шкоду бяспецы. У садзе дзеткі і выхавацелькі проста адмовіліся ад выкарыстання электрычных гірляндаў. Няхай жывуць елачкі ў лесе! Пажарныя далі дазвол, зразумела, пры ўмове выканання ўсіх супрацьпажарных мерапрыемстваў. Святкуюць дзеці надыход Новага года не менш радасна, чым ля ёлкі з лесу. А з жывой прыгажуняй можна пагутарыць ля ўваходу ў сад.

Выхаванцы гэтай дзіцячай установы вучацца любіць прыроду. Матэрыял пра жыццё экалагічнага сада ў Валожыне сёння можна прачытаць на 4-й старонцы.

Мікола ГАЙДУК.



130 дзетак выхоўваецца ў экалагічным дзіцячым садзе №5 Валожына. Сёлета яны, як і кожны год, упрыгожылі навагоднюю ёлку, якая расце ў двары сада. Выхаванцы старэйшай групы "Б" Дыяна Ліпніцкая, Алеся Казерская, Улада Скумс, Паліна Віршыч, Віця Голуб, Таня Бітэль і выхавальніца Марына Каранеўская ля жывой ёлкі.

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

### Навагодняя ноч

Як яе сустракаюць на чыгуначным вакзале ў Маладзечне – матэрыял Ірыны Рабушкі.



3-я старонка

### Каляндар на 2003 год

"Рэгіянальная газета", кола сяброў якой пабольшала з гэтага нумара, змяшчае каляндар на 2003 год.



5-я старонка

### Завяжы гальштук

У новай рубрыцы "Стыль" вы знойдзеце парады, як карыстацца такой звычайнай рэччу, як гальштук.



6-я – 7-я старонкі

■ РАЗМОВА СА СТАРШЫНЁЙ

# 2003-ці – год парадку...

**Наступны 2003 год аб'яўлены годам добраўпарадкавання і навядзення парадку на зямлі. Наколькі рэальна зрабіць яго такім? Карэспандэнт "Рэгіянальнай газеты" звярнуўся да кіраўнікоў райвыканкомаў рэгіёну і Маладзечанскага гарвыканкома.**

**ВІЛЕЙКА**. Тут стане лепшым асвятленне. На дамы, касцёл, царкву, райвыканком, банк, гасцініцу, Палац культуры прыладзяць падсвечванне – усяго 70 - 80 адзінак. Эскізы ёсць. Зменіць выгляд плошча Леніна: уладкуюць дарожкі, плот, бардзюры.

Старшыня райвыканкома **Яўген Сініла** расказаў, што складзены план па стварэнні эталона комплекснага архітэктурна-мастацкага афармлення тэрыторыі цэнтра горада. За кожным аб'ектам замацаванае адказнае прадпрыемства.

Па сельскіх Саветах таксама ёсць план добраўпарадкавання. Вызначаны эталонны населены пункт – Ільдя. Яго будуць даводзіць да толку ў першую чаргу.

**МАЛАДЗЕЧНА**. Старшыня гарвыканкома **Мікалай Чурсін** гаворыць, што цяпер фарміруецца бюджэт на наступны год. "Калі гэта зробім, — прадаўжае М.Чурсін, — тады і ўбачым, што ў нас будзе, а што не. Пакуль усе планы без рэсурсаў".

Не раскрывае сваіх планаў і старшыня Маладзечанскага райвыканкома **Сямён Касабуцкі**. "Да 15 студзеня зацвердзім бюджэт, — кажа старшыня, — пасля можна будзе сказаць, што дакладна зробім. Цяпер размовы абстрактныя".

**СМАРГОНЬ**. Чакае 500-годдзя горада старшыня райвыканкома **Станіслаў Юргель**:

— Колькі трэба зрабіць! Ёсць рашэнні раённага і абласнога выканаўчых камітэтаў аб добраўпарадкаванні райцэнтра, якія павінныя выканаць да канца верасня — пачатку кастрычніка. Усё кардынальна зменіцца: ад галоўнай плошчы да ўездаў і выездаў з горада.

Старшыня запэўніў карэспандэнта, што Смаргонь стане прыгажэйшай за Маладзечна.




Добраўпарадкаванне - не кампанія, а стан... На адной з вуліц Мядзела. Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

На добраўпарадкаванне ўжо затрачана каля 150-ці мільёнаў рублеў з раённага бюджэту. Вобласць нічога не дала. Пакуль зроблена толькі 15% ад запланаваных мерапрыемстваў па добраўпарадкаванні. Але Станіслаў Юргель мяркуе, што да юбілею, які будзе святкавацца ў другой палове года, запланаванае зробяць.

**МЯДЗЕЛ**. Старшыня райвыканкома **Станіслаў Чарнушэвіч**:

— Абустроіць Мядзельшчыну няпроста. Гэта не проста раён, а Нарачанскі край. І работы распачалі ўжо цяпер.

Распрацаваная праграма па добраўпарадкаванні ўсіх 305-ці населеных пунктаў раёна. Не мінаюць і маленькія вёскі. Уладкавалі Папоўку каля Пузыроў. Ставяць новы плот у Брусах. Выразалі 100 тоўстых старых дрэў, у 2003 годзе заасфальтуюць дарогі.

Брусы сёлета адзначаць 60-годдзе сумнай даты. У верасні 1943 года вёску поўнасцю спалілі гітлераўцы, загубіўшы 40 чалавек. Цяпер тут жывуць у асноўным пенсіянеры.

С.Чарнушэвіч кажа, што вялікія патрабаванні прад'яўляюцца да старшыняў сельскіх Саветаў і кіраўнікоў гаспадарак. У першую чаргу – гэта тычыцца работы з людзьмі, добраўпарадкавання тэрыторый, ферм. У рабочых павінны быць і ўжо ёсць куток адпачынку: летам у кветках, а зімой – у добрых бытоўках.

Прыводзяцца у парадак звалкі – палігоны цвёрдых бытавых адходаў, ліквідуюцца сметнікі. Праца ідзе сумесна з Нацыянальным паркам. Папрыгажэла ў магазінах раёна.

**АСТРАВЕЦ**. Большы парадак, чым летась, хоча навесці старшыня райвыканкома **Адам Кавалька**.

Поўнасцю добраўпарадкавалі мікрараён Валадарскага, дзе жыве 5300 чалавек. Зрабілі тратуары, асвятленне. У некаторых дамах правялі кабельнае тэлебачанне. Знялі антэны, якія псуюць дахі. "Нам прыходзіцца штогод траціць каля 100 мільёнаў рублёў на іх рамонт, — гаворыць А.Кавалька. – А тэлебачанне абышлося ў 30 мільёнаў рублёў".

Сёлета зменіцца цэнтральная плошча і цэнтральныя праезды. На плошчы зробяць газоны. Убяруць з яе кіёскі і размесцяць іх кампактна па 5-8 штук. Знясуць частку драўляных дамоў. Людзям дадуць іншае жыллё. Ужо знеслі 4 дамы. Зменяцца фасады будынкаў.

**ВАЛОЖЫН**. Заасфальтаваць дарогі, зрабіць бардзюры, а таксама асвятленне і пасадзіць кветкі ў райцэнтры хоча старшыня райвыканкома **Іван Маркевіч**.

У вёсках памяняюць, пафарбуюць плот. Адрамантуюць будынкі сельсаветаў, кантор, дзіцячых садоў і школ.

**АШМЯНЫ**. Старшыня райвыканкома **Вітольд Кудырка** нічога пра свае намеры па добраўпарадкаванні не расказаў. "Навошта Маладзечну ведаць пра Ашмяны?" – не разумее старшыня.

Ірына РАБУШКА.

## Новы год з агнём

**МАЛАДЗЕЧНА. 31 снежня пажарнікам было не да адпачынку.**

У 12 гадзін дня ў вёсцы Гарнякі Красненскага сельсавета згарэў дом. 37-гадовы мужчына, які жыў у гэтым доме, быў п'яны. Ён не пацярпеў.

Праз 8 гадзін загарэўся дом у вёсцы Новая Радашкавіцкага сельсавета. Часткова засталіся сцены. Падчас тушэння пажару знайшлі моцна абгарэлы труп. Мяркуецца, што гэта гаспадыня пенсійнага ўзросту.

Праводзіцца праверка. Прычына не ўстаноўленая.

За 13 хвілін да Новага года загарэлася кватэра па вуліцы Б.Хмяльніцкага, 9. У ёй ужо "сустракалі" свята 27-гадовы ўнук разам са сваёй 70-гадовай бабуляй. Хлопец учыніў пажар, але з хаты сышоў.

Нецвярозую бабулю выратавалі. Згарэла маёмасць.

Ірына РАБУШКА.

## Навагодняя ноч на чыгуначным вакзале

**МАЛАДЗЕЧНА. Звычайна навагодняя ноч на чыгуначным вакзале праходзіць ціха і спакойна, сёлетняя была не такой...**

Жыццё кіпела. Людзей было шмат. Як і ў працоўны дзень. У гэтую ноч на вакзале працавалі два касіры, дзяжурная па выдачы даведак, па чалавеку ў прыёмцы-здачы багажу, медпункце, буфеце, два міліцыянеры з аддзела ўнутраных спраў на транспарце і, канешне, дзяжурная па вакзалу Ларыса Дубовік.

Дзяжурыць даводзіцца прыкладна раз у чатыры гады. Ужо 13-ы год Л.Дубовік працуе на чыгуначным вакзале. І 4-ы раз сустракае Новы год на рабочым месцы.

Свята яна не адчувае. Прызвычаілася ўжо. Толькі спаць заўсёды хочацца, асабліва пасля трох гадзін ночы. Па словах Ларысы, з 3 да 4 гадзін раніцы – самы спакойны час. Сёлета і ў гэтую гадзіну было чым заняцца.

Людзі ехалі ў Мінск і назад на апошняй і першай электрычках. Спяшаліся сярод ночы ў Брэст. А вось у Гродна і Калінінград ужо 30 снежня білетаў амаль не было. Неяк, прыпамінае Л. Дубовік, адзін толькі дзядок на вакзале быў, у Рыгу ехаў. Дык яго па гучнагаварыцелю павіншавалі. Быў вельмі задаволены. Аднойчы жанчына з двума дзецьмі не паспела на Вілейку ад'ехаць. Так і засталіся на вакзале Новы год сустракаць. Такіх пасажыраў з Новым годам павіншуюць на электронным табло.

Бліжэй да раніцы (1 студзеня) звоняць па тэлефоне і выклікаюць таксі. Альбо талончык да ўрача заказваюць, ці пытаюцца, колькі зараз часу, якая розніца з польскім часам.

Было і такое, што мужчына каля батарэі заснуў, потым прачнуўся з пытаннем, чаму ён нікуды не паехаў. Але ў дзяжурнай па вакзале адказ ёсць на ўсё.

Ірына РАБУШКА.



Дзяжурная па чыгуначным вакзале Ларыса Дубовік сустрэла на працы чацвёртую навагоднюю ноч. Фота Ірыны РАБУШКІ.

### Курсы валют НБ РБ

| | 26.12 руб. | 2.01 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1919,00 | 1920,00 |
| Еўра | 1971,39 | 1993,63 |
| Злоты | 495,74 | 498,47 |
| Літ | 571,02 | 577,50 |
| Расійскі рубель | 60,36 | 60,41 |

«Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1925/1950 | 1925/1950 |

Маладзечна

### Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 26.12 | 2.01 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11470 | 11470 |
| Сасіскі, 1 кг | 4990 | 4990 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 1 кг | 700 | 700 |
| Грэчка, 1 кг | 1050 | 1050 |
| Цукар, 1 кг | 940 | 940 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1200 | 1200 |
| Алей, 1 л | 1600 | 1600 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 450 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 620 | 600 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 680 | 680 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 700 | 700 |
| Капуста, 1 кг | 450 | 500 |
| Морква, 1 кг | 700 | 700 |
| Лімоны, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Апельсіны, 1 кг | 1600 | 1600 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4000 | 4000 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1700 | 1700 |
| Бульба, 1 вядро | 3600 | 3600 |
| Яблыкі, 1 кг | 1000 | 1000 |

# Расце сад у Папоўцы

**ВАЛОЖЫН. Чытач можа задаць пытанне – у Папоўцы расце сад, ці ў Папоўцы ёсць дзіцячы садок? Любы адказ будзе правільным. Два дзесяцігоддзі на ўскраіне Валожына – у Папоўцы – працуе дзіцячы сад. Амаль ад дня адкрыцця яго тут расце сад з самымі рознымі пладовымі і ягаднымі кустамі. Дакладней, ён кожны год папаўняецца ўсё новымі дрэўцамі і кустамі.**

Многа можна знайсці ў нас дзіцячых садкоў, дзе б на зіму нарыхтоўваліся яблыкі свайго ўраджаю, варыліся варэнні з ягад, сабраных рукамі работнікаў сада, салілісе свае агуркі? Не ведаю. Ведаю толькі дакладна, што такі сад ёсць у Валожыне. І яго работнікі не маюць сакрэтаў ад каго б там ні было.

20 год таму, калі закладваўся сад, загадчыцай была Людміла Афанасьева. Сёння пачатае Людмілай Міхайлаўнай працягвае калектыў, на чале якога Валянціна Залеская:

– Кожны год з чарнаплоднай рабіны мы варым варэнне. А сёлета урадзілі яблыкі, вішні, дык мы рабіну здавалі. І яшчэ 300 кілаграмаў сабралі ў калгасе імя 1–га Мая на здачу.

Грошы за здадзенае сад пускае на свае патрэбы. Трэба і рамонт зрабіць, і з інвентару нешта набыць. Грошы патрэбныя ўсім, вось толькі з'яўляюцца яны ад дзейнасці, якая прыносіць задавальненне выхавацелям. А выхаванцы вучацца ад старэйшых жыць з прыродай у згодзе.

Дарэчы, распараджацца грашыма тут умеюць. Летась сад атрымаў разам з Ганаровай граматай прэмію ад Мінскага абласнога камітэта па экалогіі за выхаванне дзяцей. Палову прэміі – каля 300 тысяч рублёў – аддалі на набыццё ультрагукавога інгалятара.

У планах, і вельмі блізкіх, стварэнне санаторнай групы ў садку. Там і інгалятар прыдасца. Санаторная ж група тут ствараецца невыпадкова. Шмат год тут працуе фітабар. Рэгулярна дзеткі і работнікі сада п'юць травяны чай, травы для якога нарыхтоўваюць разам.

З 1997 года тут ёсць экалагічная сцяжынка. Аб'екты мяняюцца, дапаўняюцца. Побач са сцяжынкай – агарод, фітаграда з лекавымі раслінамі, фруктовы сад з яблынямі, слівамі, вішняй, алычой, араніяй, іргой, парэчкамі, малінай, рэдкія расліны, кветкі, участкі для працы, зона адпачынку.

Будучыня ў сада ёсць. Яна ў дзецях, садзе, пасаджаным выхаванцамі і выхавацелямі, і ў любові да прыроды.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Трэцяе жыццё дрэва, ці Гісторыя адной бочкі

**Гэта казка нарадзілася ў дзіцячым садзе №5 Валожына.**

Дзесьці, калісьці са старога галінастага дуба зваліўся жолуд. Вецер аднёс яго далей, пад маладыя кусты шыпшыны. Жолуд тут і прарос. З'явіўся тоненькі кволы парастак. Яму пашанцавала – ніхто яго не зламаў, вільгаці і святла было дастаткова, ніхто не перашкаджаў расці. Парастак зусім не заўважаў часу. Сезоны змяняліся, ён падняўся намнога вышэй за сваіх суседзяў-кустоў. Маленькі парастак стаў магутным дрэвам. З яго падалі жалуды, іх з'ядалі лясныя звяры. На галінках спявалі і вілі свае гнёзды птушкі. Час ляцеў, як вясенні ветрык, хутка, весела і лёгка.

Каля Дуба бурліла жыццё: насякомыя, звяры, птушкі. Ён ніколі не быў адзін. З'явіліся новыя дрэвы, паміралі і падалі старыя.

Але аднойчы з'явіўся Чалавек. Дуб глядзеў на яго без страху, з цікавасцю і даверам. А як жа інакш? Бо ніводная жывая істота не нанесла яму шкоды. "Цудоўнае дрэва!", — стукнуў па магутнаму ствалу Чалавек. Яго пахвала была прыемнай лясному волату. Так, ён сапраўды стаў вышэйшым за ўсе дрэвы вакол. Яго ствол не мог зламаць ніякі вецер.



Казка пра бочку нарадзілася ў дзіцячым садзе №5 Валожына. Дзеці вераць у казку, таму што яна робіцца і з іх удзелам. Фота Валянціны ЗАЛЕСКАЙ.

Але на другі дзень Чалавек прыйшоў не адзін. Ва ўсіх яго спадарожнікаў у руках былі нейкія інструменты. "Мабыць, мяне будуць вывучаць, вымяраць", — падумаў Дуб. Але яго думка абарвалася ад невыноснага болю – у свол упіваліся сякеры. "О! Лепш бы я быў тонкім, крывым, выдадкам! Захапленне Чалавека прынесла мне смерць!", — і Дуб рухнуў. Ён памёр.

Яго магутны ствол пілавалі, сарвалі галлё, лісце, некуды везлі, з яго нешта майстравалі. Нічога гэтага ён не ведаў, не адчуваў. Вакол была цемната і пустата.

Але аднойчы душа Дуба прачнулася. Быў ён цяпер нізкі, пусты ўнутры, складаўся з гнутых дошчачак, сціснутых жалезнымі абручамі. Дуб-прыгажун стаў звычайнай Бочкай.

Бочка шмат падарожнічала. Яе нарэшце купілі.

Цяпер жыццё было зусім іншым: яна стаяла ў цемнаце, у падвале. Толькі зрэдку Бочку выносілі на святло – мылі, сушылі, напаўнялі агароднінай. Час спыніўся, яна жыла ад аднаго праменьчыка святла да другога. Чалавек прыходзіў, штосьці набіраў, і зноў рабілася ціха і цёмна.

Аднойчы Чалавек заўважыў, што Бочка рассохлася, стала працякаць. "Пара замяніць на новую!", — сказаў ён. Людзі вынеслі яе з падвала і сталі разглядаць. Усе гаварылі, што яна нікуды не гадзіцца і яе трэба выкінуць. "Ну, і няхай! Лепш я буду ляжаць на звалцы, чым у цёмным, адзінокім падвале", — думала Бочка. Але дзеці Чалавека вырашылі інакш.

Бочку закапалі ў зямлю між кустоў бэзу, у сярэдзіну насыпалі зямлі і пафарбавалі. Зноў людзі гаварылі, што яна прыгожая. Канешне, гэта была не натуральная прыгажосць, але ўсё ж такі... Штосьці расло ўнутры Бочкі. Гэта былі кветкі – пяшчотныя і прыгожыя. Цяпер Бочка не баялася пахвалы. Што яшчэ з ёй можа здарыцца? Яна стала Клумбай. Вакол яе бегалі дзеці, на яе любаваліся, яе даглядалі. Побач жылі птушкі і матылькі, свяціла сонца, шумеў вецер. Жыццё зноў было цікавым.

Так, Клумба разумела, што з часам струхнее, і яе спаляць. Але попел трапіць у зямлю і дасць жыццё насенню, з якога штосьці вырасце. А можа, нават дубам? Хто знае!

# Налягай на вітаміны, грамада!

**У медыцыну, сельскую гаспадарку, харчовую прамысловасць і побыт кожны год уводзіцца каля 5000 новых хімічных злучэнняў. Але ў некаторых з іх ёсць канцэрагенныя, мутагенныя і іншыя небяспечныя рэчывы. У сувязі з забруджваннем акаляючага асяроддзя і прадуктаў харчавання рознымі таксінамі, цяжкімі металамі ды радыенуклідамі вострa паўстае праблема абароны чалавека ад неспрыяльных экалагічных фактараў.**

Забруджванне акаляючага асяроддзя наносіць шкоду нашаму арганізму. А гэта ў сваю чаргу змяняе ўмовы функцыяніравання клетак, парушае абаронныя функцыі сістэм і органаў (лімфатычнай, імуннай, печані, скуры). Адаптацыя чалавека да знешніх і ўнутраных зменлівых памяншаецца. Таму так важна шляхам ачысткі арганізма патрымліваць у норме каляклетачную прастору.

Таксама шкодзяць здароўю і радыяцыйнае выпраменьванне, радыенукліды. Гэты экалагічны фактар пачаў дзейнічаць на нас з вамі пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе і працягвае дзенічаць зараз. Напрыклад, выкінуты з рэактара цэзій-137 з'яўляецца хімічным аналагам калію і ўключаецца ў большасць метабалічных працэсаў арганізма. А стронцый-90 (аналаг кальцыю) фіксуецца ў кожнай тканцы, выклікаючы апраменьванне кроветворнага коснага мозга. Радыяцыйныя прадукты, трапіўшыя ў арганізм з ежай, іанізуюць малекулы вады, утвараючы доўгажывучыя небяспечныя радыкалы, якія пагражаюць нармальнаму функцыяніраванню клетачных мембран і транспарціроўцы праз іх іонаў. Пакутуюць мембраны клетак таксама і ад радыятаксінаў – яшчэ больш жывучых утварэнняў.

Навуковыя доследы паказалі, што нават пасля аднаразовага ўвядзення ў арганізм стронцыю, некаторыя змяненні ў ім адбываліся нават праз 8-11 гадоў!

Але шмат якія вітаміны (Е, С, караціноіды), што з'яўляюцца знешнімі прыроднымі кампанентамі антыаксідантнай сістэмы арганізма, могуць абараняць ад іанізуючага выпраменьвання. І яшчэ: пры радыяцыйным уздзеянні адзначаецца падзенне ў арганізме вітамінаў Е, А, В. Дадатковае ж дабаўленне іх у рацыён дае станоўчы вынік. Вітаміны таксама дапамагаюць трымаць у парадку міжклетачную прастору, у выніку чаго мембраны клетак працуюць нармальна.

Так што спажывайце пабольш вітамінных прадуктаў, назапашвайце іх на зімова-вясновы перыяд, давайце іх рэгулярна дзецям і людзям, якія аслаблены хваробай.

**Алег БЯГАНСКІ.**

# 2003 ГОД

рэгіянальная газета
222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.
E-mail: regionnews@promedia.by; http://regionnews.promedia.by



Мал. Андрэя Панфілава, вучня мастацкай дзіцячай школы. Маладзечна.

## СТУДЗЕНЬ

ЯНВАРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## ЛЮТЫ

ФЕВРАЛЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | |

## САКАВІК

МАРТ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 | |

## КРАСАВІК

АПРЕЛЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

## МАЙ

МАЙ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| А | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| Ч | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| П | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Н | 4 | 11 | 18 | 25 | |

## ЧЭРВЕНЬ

ИЮНЬ

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| П | | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| А | | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| С | | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Ч | | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| С | | 7 | 14 | 21 | 28 | |
| Н | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 | |

## ЛІПЕНЬ

ИЮЛЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| А | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Ч | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| П | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| С | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| Н | 6 | 13 | 20 | 27 | |

## ЖНІВЕНЬ

АВГУСТ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| А | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| С | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| Ч | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| С | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| Н | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |

## ВЕРАСЕНЬ

СЕНТЯБРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## КАСТРЫЧНІК

ОКТЯБРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| А | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Ч | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| П | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| С | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| Н | 5 | 12 | 19 | 26 | |

## ЛІСТАПАД

НОЯБРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | | 3 | 10 | 17 | 24 |
| А | | 4 | 11 | 18 | 25 |
| С | | 5 | 12 | 19 | 26 |
| Ч | | 6 | 13 | 20 | 27 |
| П | | 7 | 14 | 21 | 28 |
| С | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| Н | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |

## СНЕЖАНЬ

ДЕКАБРЬ

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| П | 1 | 8 | 15 | 22 | 29 |
| А | 2 | 9 | 16 | 23 | 30 |
| С | 3 | 10 | 17 | 24 | 31 |
| Ч | 4 | 11 | 18 | 25 | |
| П | 5 | 12 | 19 | 26 | |
| С | 6 | 13 | 20 | 27 | |
| Н | 7 | 14 | 21 | 28 | |

## ДНІ АФІЦЫЙНЫХ СВЯТАЎ

**1 студзеня** – Новы год;
**7 студзеня** – праваслаўныя Каляды;
**8 сакавіка** – Дзень жанчын;
**1 мая** – Свята працы;
**6 мая** – Радаўніца;
**9 мая** – Дзень Перамогі;
**3 ліпеня** – Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь;
**7 лістапада** – Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі;
**25 снежня** – каталіцкія Каляды

 



# Важней за касметыку

**Па–сапраўднаму добры гальштук павінен быць стыльным завяршэннем дзелавога жаночага аблічча. І матэрыял пры гэтым мусіць быць натуральным: шоўк, кашамір, воўна,баваўна вышэйшага гатунку, шоўк з дадаткам ільну...**

Гальштук, бадай, самая кансерватыўная частка адзення, і ад моды залежыць толькі яго памер, даўжыня і прапорцыі вузла.

Што тычыцца колеру, то звярніцеся да класічных варыянтаў. Бяспройгрышныя злучэнні чорнага і белага, белага і сіняга, жоўтага і чырвонага, чырвонага і белага. Калі сумна, выходзьце на большую прастору. Напрыклад, да сіняга пінжака і белай блузкі падыдзе не толькі сіні гальштук, але і бардовы, сіні ў белы або блакітны гарошак. У такім класічным наборы вы будзеце выглядаць і прыгожа, і прывабна, і рэспектабельна.


**Для некаторых жанчын гальштук важней за касметыку.** Фота з архіва «РГ».

Можаце пагуляць з кантраснымі колерамі, калі хочаце вылзеліцца з шэрай офіснай масы. Напрыклад, да таго сіняга касцюма падыдзе чырвоны або маркоўны гальштук. Плюс яркі малюнак, тканіна з бліскучым адлівам... Зразумела, што і тут, як і ва ўсім, патрэбная мера. Асабліва калі каляровая гама вашага гальштука ўступае ў канфрантацыю з колерам вашых валасоў, вачэй або макіяжу. Не трэба забывацца, што гальштук знаходзіцца даволі блізка да твару і не павінен адцягваць ад яго ўвагу.

Да таго ж у кожнай з нас ёсць любімыя колеры і такія, якія нам катэгарычна не ідуць.

### Брунеткам

Так, у гардэробе брунеткі і шатэнкі добра прыжывуцца чорныя, цёмна–шэрыя, сінія ўсіх адценняў, карычневыя і аліўкавыя касцюмы і пінжакі, блузкі ад беласнежных, блакітных і ружовых да лімонных і колеру мяты. Таму і гальштукі трэба падбіраць чырвоныя, пурпурныя, сінія, тэракотавыя, зялёныя.

### Бландзінкам

Бландзінкам і сівым падыходзяць касцюмы шэрыя, сінія і карычневыя рознай насычанасці, белыя, блакітныя, ружовыя і мятныя блузкі, а гальштукі ружовыя, сінія, пурпурныя, ізумрудныя, хвойныя...

### Рыжым

Рыжым ідуць сінія, шэрыя, карычневыя і аліўкавыя пінжакі, блузкі колеру слановай косці, персікавыя, бэжавыя, жоўтыя, зялёныя; гальштукі – карычневыя, крыху блакітныя, колеру цэглы, аранжавыя, колеру нефрыту і бронзы, залацістыя.

### Русым

Русым і залатавалосым падыходзяць спалучэнні шэрых, карычневых, пясочных, аліўкавых, сініх і колеру кавы касцюмы з белымі, крэмавымі, лімоннымі, ружовымі і блакітнымі блузкамі, а таксама фіялетавымі, індыга, блакітнымі, ружовымі, чырвонымі, пурпурнымі, белымі і бэжавымі гальштукамі.

Але ўсё гэта простыя колеры. Складаны шматколерны малюнак гальштука павінен мець у сваім складзе колер, блізкі да касцюма, а фон павінен гарманіраваць з блузкай. Касцюмы ў клетку ўвогуле не любяць яркіх дадаткаў: да яго падыдзе гальштук спакойных адценняў. Агульнае правіла: гальштук павінен перабіваць малюнак блузкі, быць ярчэй, кідацца ў вочы, але не рэзаць іх!

Завязвай гальштук перад люстэркам! Трэніруйся падольш на першы раз. Паспрабуй перавязаць вузел вышэй або ніжэй, пакуль не ўстановіш добрую даўжыню. Надавай увагу нават дробязям. Твае намаганні ацэняць тыя, хто ведае ў гэтым толк.

# Навучыся завязваць сам

**Існуюць мільёны розных спосабаў завязаць гальштук! Некаторыя з іх добра падыходзяць да офіса, іншыя лепш для таварыскай сустрэчы. Гэты ўрок падрабязна патлумачыць азы завязвання гальштука і навучыць некалькім практычным спосабам. Твая сяброўка будзе проста ў захапленні, а калегі памруць ад зайздрасці.**

Перш чым узяцца за справу...

Выберы гальштук, дастойны тваёй асобы, і такі, які падыходзіць да фасону твайго адзення. Паласатыя гальштукі не пасуюць да паласатых сарочак і пінжакоў. А для вельмі яркага гальштука падыдзе толькі сціплая белая або шэрая сарочка.

Якім вузлом трэба завязваць гальштук? Для шаўковых або шырокіх гальштукаў падыходзіць вузел "Віндзар". Шарсцяныя або вязаныя гальштукі вельмі грубыя для "Віндзара" – іх завязваюць "чацвяртным", каб атрымаўся вузел паменш.



### Паднімаем каўнерык

**Крок 1.** Зашпілі гузік ля каўнерыка. Паднімі яго так, каб можна было лёгка абвязаць гальштук вакол шыі. Гэта дапаможа падагнаць размер у першы раз і не дапусціць складак.

**Крок 2.** Падганяем даўжыню. Возьмем стандартны гальштук. Некаторыя людзі носяць яго так, каб даўжыня абодвух канцоў была аднолькавай. На жаль, не ўсе гальштукі маюць аднолькавы размер, таму нельга прадказаць, якой даўжыні атрымаюцца канцы. Гальштук, які звісае толькі да пупка, выглядае затанным. З іншага боку, гальштук, які вісіць над штанамі, выглядае смешна. Бывае нават горш – вузкі канец даўжэй за шырокі. Нармальная даўжыня, калі гальштук ледзь дастае да спражкі дзягі.

**Каб прасунуць шырокі канец праз вузел, прапіхні яго вугалок пальцам, а затым выцягні цалкам.**

Вельмі складана? На шчасце, ёсць агульнае правіла. Для пачатку, абвяжы гальштук вакол шыі так, каб шоў ляжаў на каўняры. Шырокі канец павінен быць з правага боку (калі ты ляўша – то з левага). Цяпер, што тычыцца даўжыні: змясці вузкі канец непасрэдна над чацвертым гузікам сарочкі, калі лічыць зверху, і нацягні гальштук.

**Яшчэ адзін спосаб – хай шырокі канец звісае ўдвая далей за вузкі. Каб праверыць, сагні шырокі канец напалам па накірунку да шыі. Ён павінен атрымацца такой самай даўжыні, што і вузкі.**

## «Чацвяртны»

**Гэта самы хадавы тып вузла. Навучыся такому вузлу – і ты падрыхтаваны да большасці фармальных сустрэч.**

Левай рукой вазьмі вузкі канец на адлегласці каля 10 сантыметраў ад шыі. Гэта месца, дзе будзе вузел. Вазьмі шырокі канец у правую руку і перакрыжуй яго з вузкім над месцам вузла. Затым прытрымай яго левай рукой.

Абгарні шырокі канец вакол вузкага, затым прасунь яго пад часткай гальштука на каўняры.

Выцягні ўвесь шырокі канец і няхай ён вісіць уніз. Цяпер прапіхні яго ў дзірку, якая ўтварылася на месцы вузла. Распраў вузел абедзвюма рукамі і падцягні яго.

Зацягвай вузел спакойна і моцна. Паглядзі на гальштук у люстэрка. Ці вісіць ён прама? Калі трэба, то зрабі вузел слабейшым і адрэгулюй даўжыню. "Чацвяртны" вузел крыху большы з аднаго боку. Ён павінен быць без камкоў і складак.

Ага, не забудзься апусціць каўнер. Прышпілі яго гузікамі, калі яны ёсць.

**15–30 мінут – норма для навічка. 2–10 мінут – атрымаецца нягегла.**

**Вузел павінен шчыльна ляжаць якраз над першым гузікам. Гальштук, які перацягнуты, будзе спаўзаць уверх на каўнер і сціскаць горла. А вельмі аслаблены гальштук выглядае неахайна.**




## «Віндзар»

**Гэты вузел любяць палітыкі і відныя бізнесмены. Завязваецца ён прыкладна так, як і "Чацвяртны", – проста зрабі два абароты.**

**Гэты вузел больш складана зацягнуць, таму дзейнічай павольней і будзь гатовы, каб аслабляць вузел і перазацягваць яго. У рэшце рэшт, "Віндзар" – гэта вялікі вузел, таму на яго спатрэбіцца больш часу.**

Вазьмі вузкі канец левай рукой на адлегласці прыкладна 5 см ад шыі. У гэтым месцы будзе вузел. Цяпер шырокі канец правай рукой прыкладзі зверху да гэтага месца.

Абгарні шырокі канец пад вузкім, затым прадзень праз "шыйны" участак.

Абярні шырокі канец яшчэ раз праз "шыйны" участак, але на гэты раз – з іншага боку. Цяпер прапіхні яго ў дзірку, якая ўтварылася.

Зацягвай вузел вельмі асцярожна. Гэта вельмі важна. Спачатку зацягні вузел, затым падцягні яго да каўняра.

**Калі ты дзейнічаў па інструкцыі і нічога не атрымалася – не адчайвайся. Паслаб вузел, распрастай складкі, надай патрэбную форму і зноў зацягні.**




Паглядзі на гальштук у люстэрка. Як ён сядзіць? Прама? Свабодны канец не вельмі доўгі або кароткі? Калі трэба, то паслаб вузел і змяні даўжыню так, каб пры зацяжцы яна стала нармальнай.

Вузел павінен быць роўным і гладкім, без складак. Зрабі так, каб гальштук вісеў прама.

### Каб развязаць гальштук

**Каб развязаць гальштук, не вынімай вузкі канец. Проста дзейнічай у адваротным парадку.**



**Якім ПЯРЭЧКА.**

 

# Я.Булгак – фотапаэт Віленшчыны

**Самым цяжкім у жыцці ёсць бачанне сутнасці жыцця ўласнымі вачыма праз яго прывідныя карціны. Блукаем па свеце ў тумане прасторы і мацаем позіркам раскіданыя па паверхні таямніцы жыцця. Але часам прыходзіць момант, у які мы бачым рэчы, раней нябачныя. Расплюшчваем невідушчыя вочы, несправядліва бяздзейныя, і тут настае момант ісціны.**

**Ян Булгак, уступнае слова ў даведніку па Вільні.**



Яніна Рушчыц. Фота Яна БУЛГАКА.

Ян Булгак нарадзіўся ў 1876 годзе на Навагрудчыне ў вёсцы Асташын. Вывучаў філалогію ў Кракаве. Заснаваў у Вільні майстроўню, мэтай якой была фотафіксацыя помнікаў архітэктуры Вільні. У ягоным доме на плацы Э. Ажэшкі захоўвалася калекцыя з 10 тысяч фотаздымкаў, з іх каля 6 тысяч — Вільні і Віленшчыны. Калекцыя амаль што цалкам згарэла ў 1944 г. Удзельнічаў у 174 міжнародных выставах. Напісаў шмат прац па тэхніцы і эстэтыцы фатаграфіі, а таксама па краязнаўчай фатаграфіі. Памёр у 1950 г. у Варшаве.

Булгак зацікавіўся фатаграфіяй выпадкова ў 1905 годзе. На яго лёсе як фатографа вельмі паўплываў наш зямляк Фердынанд Рушчыц, якога Булгак сустрэў у 1910 годзе. Рушчыц пастараўся дзеля Булгака, каб той стаў гарадскім фатографам у Вільні. Безумоўны мастацкі ўплыў Рушчыца на Булгака.

Перад тым, як заняць пасаду Віленскага фатографа, Булгак выехаў у Германію, дзе прайшоў практыку ў вядомага дрэздэнскага партрэціста Хугана Эрфурта (Hugona Erfurth), падарожнічаў таксама па розных мастацкіх суполках, дзе пазнаёміўся з сімвалістамі і імпрэсіяністамі з Францыі і Германіі. Булгак быў прадстаўніком мастацкай плыні, якая завецца піктаральнай. Гэтая плынь нарадзілася ў канцы 19–га стагоддзя, прымаючы эстэтыку імпрэсіянізму і працуючы з тэмамі пейзажу і архітэктуры.

З 1919 па 1939 год кіраваў аддзяленнем мастацкай фатаграфіі факультэта мастацтваў Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторы. Меў вялікі ўплыў на жыццё фотамастакоў Вільні, якое цалкам прыняло погляды Булгака на мастацтва. Гэты ўплыў абумовіў развіццё фатаграфіі як мастацтва на Віленшчыне і на тэрыторыі не толькі Заходняй Беларусі, але і ўсёй дзяржавы.

Усё сваё жыццё звязаў з Вільняй і Віленшчынай, якія сталі галоўнымі тэмамі ягоных работ. Дакументаваў таксама помнікі і пейзажы іншых частак тагачаснай Польшчы. Большасць яго калекцыі паўстала ў 1912 – 1915 гадах, але нават падчас нямецкай акупацыі ў другую сусветную вайну не пераставаў фатаграфаваць. Вільню пакінуў у 1944 годзе пасля бамбардзіровак і пераехаў у Варшаву, дзе дакументаваў ваенныя разбурэнні і помнікі на захадзе Польшчы.

Яго работы адрознівае незвычайная мастацкасць, уражлівасць, пачуццё пейзажу, а таксама ўменне карыстацца святлом, якое ставарае клімат фатаграфіі.

Крытыкі і фатографы звяртаюць увагу на тое, што Вільня, сфатаграфаваная Булгаком, нагадвае разагрэты сонцам паўднёваеўрапейскі горад, няма ў ім жыцця, няма людзей, крамаў, рэстаранаў, ёсць чыстая архітэктура, галоўная тэма ягоных прац – брамы, завулкі, дахі, прырода і святло. Калі і з'яўляецца сілуэт чалавека, то падпарадкоўваецца кампазіцыі, інтэгруецца з архітэктурай.

У яго працах відавочнае захапленне амаль тэатральнай пастаноўкай кадра, адчуванне прапорцыі і прасторы, а перадусім святла, вывучэнне якога вельмі цікавіла Булгака. За фатаграфію "Радасць жыцця", якая паказвала зацэнены пакой, у які пранікаюць промні сонца, атрымаў узнагароду на Міжнародным фатаграфічным салоне ў Варшаве ў 1937 годзе.

**Паводле Ганны КАНЯСТА, Інстытут Адама Міцкевіча, Польшча.**

## Нарачанскія краявіды

Ва ўсходнееўрапейскай фатаграфіі Ян Булгак лічыцца прызнаным майстрам краязнаўчай і этнаграфічнай фатаграфіі, які пакінуў нашчадкам сотні цудоўных фотаздымкаў з выявамі беларускіх, польскіх, літоўскіх краявідаў і з відамі розных гарадоў, мястэчак, сядзібаў. "Фатограф, падобна ўсякаму мастаку, задаецца мэтай узнавіць не самі рэчы бачнага свету, а сваё асабістае ўражанне, сваё ўспрыманне іх", — так вызначаў Ян Булгак сваё творчае крэда.

Але падуладным было яму не толькі мастацтва святлапісу. Цікава і паэтычна напісаны і ягоныя матэрыялы пра вандроўкі.

"Лес стаіць і гамоніць падаўняму, адвечны, шумны, бяздонны, як мора, а кожнае ягонае дрэва ёсць цудоўнаю праяваю жыцця, якога не выказаць словам, якое толькі сэрцам і ўяўленнем можна пачуць... А калі ўжо прыгадалі аб водах, дык колькі ж маглі б мы распавесці пра нашую свянцянска-браслаўскую поўнач, пра край тысячы азёраў, пра тую невымоўна пекную, зялёна-блакітную мазаіку ўзгорыстага краю, дзе пануюць такія магутныя воды, як Нарач, Дрысвяты, Свір, Дрывяты, Мядзел у акружэнні незлічонага меншага азёрнага люду".

Пра Нарач Ян Булгак выдаў у 1935 годзе і асобную кніжку з мноствам фатаграфій. Мела яна назву "Naracz — najwieksze jezioro w Polsce" ("Нарач — найвялікшае возера ў Польшчы"). Як напісана ў прадмове, кніга з'явілася вынікам назіранняў у час вандроўкі "па благой дарозе, якая не столькі злучае, колькі раздзяляе Вільню з Нараччу". Колькі здымкаў з гэтай кнігі і прапануем увазе чытачоў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Срэбра Нарачы. Фота Яна БУЛГАКА.

■ **ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 95 ГОД ТАМУ**

## «Заштатны горад» Радашковічы

У нашым беларускім краю ёсць шмат гарадоў невяликих и мястэчэк. Яны ўсе служаць як цэнтры гандлю и хатняга рэмесла.

Некаторые мястэчки (большые) дастали названьне "заштатны горад". У таких ёсць свае гарадзкие думы, каторые, пры лепшых варунках жыцця мястэчковаго, магли бы памагчы ўсим мешчанам жыць лепей. Але цяпер ад гэтаго названьня "горад" мястэчкам вельми дрэнна прыходзицца: жыцелёў у их мала — ўсяго каля трох тысяч, а падатки и иншые ценжары накладаюцца на их так, як–бы гэта быў праўдзивы горад.

Каб паказаць прыклад, як жывуць и кольки ценжароў нясуць на сабе мястэчки на Белай Руси, апишэм тут "заштатны горад" Радашковичы (вилейск. пав. вил. губ.).

Ў Радашковичах 350 дамоў; з их 100 — "багатых" и 250 — бедных. Я сказаў "багатых", але гэта не значць, бытцам яны мели тысячы: у беларусоў кожнаго, хто заўсягды мае яду, сыты, называюць "багатыром", а бедным личыцца таки, што сягодня зьеў, ды ня ведае, ци будзе што есьци заўтра.

Радашкоўские мешчане, як и ва ўсих беларуских мястэчках, жывуць з працы сваей гэтак: хрысьцяне найбольш займаюцца, як мужыки, гаспадаркой и агародами, тольки зямли менш за мужыкоў маюць; некаторые жывуць рэмеслом, гадлююць сьвиньнями, салам. Жыды больш займаюцца гандлем, рэмеслами, а ў летку агародами, гдзе разводзяць агурки, капусту и т. п.

Як "горад", Радашковичы маюць сваю гарадзкую думу. Дума зьбирае з горада ўсе падатки гэтак: гарадзких падаткоў — 2 тысячы 415 руб. ў год, на стойку и дароги каля мястэчка — 347 руб., а казённага "налога" — 1 тысячу 162 руб. Ўсяго разам — 3 тысячы 924 руб. Куды-ж идуць гэтые грошы?

Трацяцца яны вочь гэтак: з кожнага рубля, што зьбирае дума, идзе на утрыманьне самой думы — 19 к.

на палицыю — 17,5 кап.

ў казну и на казённые патрэбы — 38,5 кап.

на выкуп гарадзкой зямли ("крулеўшчыны") — 8 кап.

для карысьци самых жыцелёў идзе — 17 кап.

Личачы па 17 кап. з рубля, на карысць и патрэбы радашкоўских мешчан прыходзицца невяликая частка гарадзких даходоў: ўсяго 536 руб. и 8 кап.

З гэтых грошэй 100 руб. аддаецца на пажарную дружыну, 100 руб. — доктару, 100 руб. — на асьвятленьне мястэчка (лятарни), 35 руб. — на папраўку моста и 201 руб. 8 кап. — на кватэру гарадзкога вучылишча.

Як видаць, то з кожнага рубля даходу 83 кап. выходзяць з мястэчка...

Пры таких законах аб думах, нашы "горады" и мястэчки, што жывуць найбольш з зямли и каля зямли, ня могуць выйсьци з беднасьци и цемнаты.



Радашковічы і сёння – заштатны горад. Фота Надзеі ЛІСАВАЙ.

**Радашкоуски.**

**Першая Беларуская Газэта з Рысунками "Наша Нива". №1 ад 4 стычня 1908 г.**

## ВІНШАВАНКІ

**Святлане Пухляковай** з Маладзечна з 20-годдзем. Свецік, здароўя, шчасця і кахання жадаем табе! *Бацькі, брат, сёстры.*

Віншуем **Ніну Данілаўну Монід** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, даўгалецця, усяго найлепшага. *Муж, дзеці, унучкі.*

Дарагія **Дзіма і Саша**! Віншую вас з Новым годам! Жадаю шчасця, здароўя і самага лепшага. *Брат Валера.*

Віншую з днём нараджэння **Ірыну Тафейку**! Жадаю моцнага здароўя, заставацца такой жа маладой. *Ала.*

Віншую **аддзел №198 з-да "Зеніт"** з Новым годам! Моцнага здароўя, шчасця, бадзёрасці, усяго найлепшага. *Валя Драгун.*

Віншуем з днём нараджэння маму і бабулю **Розу Закіраўну Драгун**! Бадзёрасці, моцнага здароўя, шчасця. *Сын, нявестка, унучка.*

Віншуем дарагую маму **Валянціну Драгун** з днём нараджэння! Здароўя, шчасця і будзь шчаслівай. *Дачка Оля і муж Сяргей.*

Дарагую дачушку **Дашачку Дарожку** віншуем з першым Новым годам! Жадаем быць здаровай і шчаслівай. *Мама і тата.*

З Новым годам віншую **сям'ю Біслюкоў** са Смаргоні! Жадаю паспяхова яго правесці, з добрым настроем. *Вікторыя.*

Любімых **мамачку і тату** віншуем з Новым годам! Жадаем моцнага здароўя, шчасця і даўгалецця. *Віка і Жэня.*

Віншуем з Новым годам і Калядамі **выкладчыкаў Беларускага тэхнікума бізнесу і права**! З павагай *група 7"Б"*.

Віншую сяброўку **Танюшу Кулік** з днём нараджэння! Жадаю здароўя, кахання, сямейнага дабрабыту, поспехаў, бадзёрасці. *Віка.*

Віншуем з днём нараджэння **Тамару Аляксандраўну Баліну**! Жадаем здароўя, шчасця, даўгалецця, удачы, бадзёрасці, сямейнага дабрабыту. *Родныя.*

Віншуем **Віку Рысік** з Новым годам! Шчасця, кахання, грошай. *Сябры.*

**Тэрэзу Давідовіч** з Астраўца віншую з Новым годам! Жадаю шчасця, сонца, смеху, усмешак і поспеху. *Танюха.*

Любімую сястру **Таццяну Мікалаеўну Грыб** віншую з днём нараджэння! Жадаю моцнага здароўя, шчасця, поспехаў. *Віка.*

Віншуем з Новым годам **Мікалая Васільевіча Бондара**! Жадаем доўгіх год жыцця, шчасця, здароўя. З павагай *Ірына, Мікалай.*

Віншую **Васілія Бондара** з Новым годам! Поспехаў табе у вучобе, сынок, моцнага здароўя, шчасця. *Тата.*

Віншую з Новым годам **Алену, Валерыю і Дзмітрыя Бондараў**! Шчасця, здароўя, усіх зямных даброт вам. *Тата.*

**Ганну Васільеўну Міхалевіч** віншуем з Новым годам! Шчасця, здароўя, доўгіх год жыцця Вам. З павагай *сям'я Бондараў* з в. Насілава.

Віншуем з Новым годам **Таццяну, Аляксандра Бондараў і іх дзетак**! Шчасця, здароўя, дабрабыту вашай сям'і. З павагай *сям'я Бондараў з в. Насілава.*

Віншуем **Пятра Завадскага** з Калядамі! Шчасця, здароўя, даўгалецця, сямейнага дабрабыту табе. *З павагай калегі.*

Віншуем з Калядамі **сям'ю Крэнць** з в. Турэц-Баяры! Жадаем шчасця, здароўя, сямейнага дабрабыту, усіх зямных даброт. *Ад Ірыны і Мікалая.*

**Сям'ю Мейсакаў** з в. Турэц-Баяры віншуем з Новым годам! Шчасця, здароўя, даўгалецця, сямейнага дабрабыту. *Ірына і Мікалай, в. Насілава.*

Віншуем з Новым годам **сям'ю Карніловічаў** з Вілейкі! Жадаем шчасця, здароўя, усіх зямных даброт. *Сям'я Бондараў, в. Насілава.*

Віншуем з днём нараджэння **Людмілу Васільеўну Філіпчык**! Жадаем шчасця, здароўя, кахання, удачы, поспехаў. *Сваты Куліцкія.*

Любую жоначку **Людмілу Філіпчык** віншую з днём нараджэння, Калядамі, Новым годам! Шчасця, здароўя, поспехаў. *Леанід Філіпчык.*

Любімую мамачку **Людмілу Васільеўну Філіпчык** віншуем з днём нараджэння! Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту. *Кацярына і Аляксей Куліцкія.*

Любімую бабулечку і мамачку **Людмілу Васільеўну Філіпчык** віншуем з днём нараджэння, Калядамі і Новым годам! Шчасця! *Іна і Максім Савічы.*

Любімага мужа **Аляксея Куліцкага** віншую з днём нараджэння, Новым годам, Калядамі! Шчасця, кахання. *Кацярына Куліцкая.*

**Куліцкага Дзімку** з Вілейкі віншуем з Новым годам і Калядамі! Шчасця, здароўя, кахання, радасці, удачы. *Матуля, татуля, брат, швагерка.*

**Сватоў Куліцкіх** віншуем з Калядамі і Новым годам! Сямейнага дабрабыту, здароўя, шчасця, удачы. *Філіпчыкі.*

**Ванду і Мікалая Куліцкіх** віншуем з Калядамі і Новым годам! Здароўя, радасці, шчасця, удачы. *Каця, Лёша, Дзіма.*

Любімых **сватоў са Стаханаўскай вуліцы** віншуем з Новым годам і Калядамі! Доўгіх год жыцця, поспехаў. *Куліцкія.*

Віншуем **Іну і Максімку Савічаў** з Новым годам і Калядамі! Здароўя, шчасця, здзяйснення мар! *Кацярына і Аляксей Куліцкія.*

**Людмілу і Леніда Філіпчыкаў** віншуем з Калядамі і Новым годам! Здароўя, шчасця, дабрабыту, поспехаў. *Кацярына і Аляксей Куліцкія.*

Віншую з 18-годдзем **Аляксандра Ляўковіча**! Жадаю шчасця, моцнага здароўя, кахання, святочнага настрою. *Юлія Фёдараўна Ляўковіч.*



## ЗНАЁМСТВЫ

Пазнаёмлюся з добрай жанчынай да 40 год. Пра сябе: 36/175, разведзены, матэрыяльна незалежны. Маладзечна-6, МС 0033116.

Разведзены мужчына 31/179/71 пазнаёміцца з дзяўчынай да 30 год для стварэння сям'і. Маладзечна-7, п/п МС 0530859.

Малады чалавек 31/182 пазнаёміцца з дзяўчынай для сур'ёзных адносін. Маладзечна-6, п/п МС 0575894.

## Купон 1

рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

тэкст

прозвішча, імя, адрас (не для друку)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету! Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

# Хлопчык ці дзяўчынка?

## Пералік амерыканскіх памылковых уяўленняў

Грамадская арганізацыя BabyCenter, якая дапамагае сем'ям у планаванні сям'і, сабрала калекцыю памылковых спосабаў для вызначэння полу будучага дзіцяці . Спецыялісты цэнтра падкрэсліваюць, што з навуковага пункту гледжання ўсе падобныя "рэцэпты" абсалютна бессэнсоўныя.

**Памылка 1. Пол будучага дзіцяці залежыць ад таго, што ядуць яго бацькі.**

Для нараджэння хлопчыка трэба ўжываць у ежу больш мяса (лепш біфштэкс з крывёй), салёных закусак (чыпсы, арэшкі, абаранкі), газіраванай вады (лепш кола). Для нараджэння дзяўчынкі неабходна, каб бацькі елі больш рыбы і агародніны, як мага больш салодкага (лепш шакалад).

**Памылка 2. Пол будучага дзіцяці залежыць ад таго, калі яго бацькі займаюцца сексам.**

Для нараджэння хлопчыка трэба займацца каханнем ноччу, калі на небе месяц, а не поўня, па няцотных чыслах месяца. Дзяўчынка гарантаваная ў выпадку, калі каханнем займацца вечарам, пры поўні, па цотных чыслах.

**Памылка 3. Пол будучага дзіцяці залежыць ад умоў, у якіх яго бацькі займаюцца сексам.**

Хлопчыкі лепш атрымліваюцца ў прахалодным памяшканні. Чым вышэйшая тэмпература, тым больш шансаў, што народзіцца дзяўчынка. Паспяховае зачацце хлопчыка забяспечанае, калі муж кахае жонку мацней, чым яна яго, калі мужчына хоча дзіцяці больш, чым жанчына, калі жанчына спіць злева ад мужа, калі іх галовы строга накіраваны на поўнач... Зрабіце ўсё наадварот, і народзіцца дзяўчынка.

**Памылка 4. Пол будучага дзіцяці залежыць ад душэўнага стану яго бацькоў.**

Чым больш бацькі хвалююцца ў момант зачацця і на працягу першых тыдняў цяжарнасці – тым больш шансаў, што народзіцца хлопчык. Калі расслабляюцца – народзіцца дзяўчынка. Акрамя таго, рэлігійныя людзі падчас цяжарнасці чытаюць спецыяльныя малітвы, якія павінны сфарміраваць пол будучага дзіцяці.

**Памылка 5. Пол дзіцяці залежыць ад многіх важных прымет.**

Нараджэнне дзяўчынкі гарантаванае, калі пад падушку будучай маці пакласці ружовую стужку, цукерку ці кветачку. Для нараджэння хлопчыка пад падушкай павінны знаходзіцца больш "важныя" амулеты. На выбар – бутэлька піва ці пісталет (можна цацачны). Калі мужчына займаецца каханнем у футболцы ці кашулі – гэта дакладная прымета, што народзіцца хлопчык. Выкарыстанне духоў, араматызатараў ці дэзадарантаў павышаюць шансы на нараджэнне дзяўчынкі, расчыненае акно ці фортка – хлопчыка.

**WPF.**

■ ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

## Гусь з апельсінамі

**Гусь (качка), зялёныя яблыкі (лепш антонаўка), 3 апельсіны, сушаныя абрыкосы, чарнасліў, грэцкія арэхі, цыбуліна.**

Тушку птушкі добра вымыць і абсушыць. Унутры і звонку пасаліць, папярчыць, пасыпаць салодкім чырвоным перцам-папрыкай, унутры нацерці часнаком. Падрыхтаваць начынку: ачышчаны і парэзаны на кусочкі яблык змяшаць з арэхамі, чарнаслівам, абрыкосамі, ачышчанымі і парэзанымі кусочкамі апельсіна. Начынку пакласці ў сярэдзіну тушкі і зашыць адтуліну ніткай ці закалоць драўлянымі палачкамі, каб скура не разыходзілася і сок ад фруктаў не выцякаў. Зашытую тушку абмазаць з усіх бакоў алеем, калі хочаце, каб скура была румянай і хрумсткай, не "варанай", і пакласці ў глыбокі протвень ці качачніцу. Побач пакласці цэлыя ці папалам парэзаныя яблыкі ў лупінах і ачышчаную і разрэзаную на чатыры часткі цыбуліну. Закрыць качачніцу крышкай ці протвень шчыльна фальгой і паставіць прыкладна на 3 гадзіны на сярэдні агонь ў духоўку, паліваць праз кожныя паўгадзіны тлушчам, што выцякае з птушкі. Апошнія 15-20 хвілін зняць крышку, выліць застаўшыся тлушч, паліць гуся (качку) сокам апельсіна і падрумяніць у духоўцы без крышкі. Падаваць на вялікім блюдзе, папярэдне пасыпаць зелянінай, абкласці тушанымі яблыкамі і кружочкамі свежага апельсіна.

## Кінатэатр «Радзіма»

**3-5 студзеня.**
Маладзёжная камедыя **"Сексі Бойз, ці Французскі пірог"**, Францыя – у 17.00 і 19.00.
Камедыя **"Клуб"**, Францыя – у 19.00.
**3 студзеня.**
**"Гары Потэр, ці Філасофскі камень"**, ЗША, прыгоды – у 14.30.
**3-6 студзеня. "Рыцар Камелота"**, ЗША, камедыя – у 15.00.
**6-12 студзеня.** ПРЭМ'ЕРА. **"Антыкілер"**, Расія – у 17.00; 19.00 і 21.00. 9 студзеня – у 19.00 і 21.00.

**ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**
3 студзеня – **"Геркулес"** – у 12.00.
4 студзеня – **"Крошка Сцюарт"**, ЗША, камедыя – у 12.00.
5 студзеня – **"Прыгоды Мюнхгаўзена"** – у 12.00.
6 студзеня – **"Беласнежка"**, ЗША, прыгоды – у 12.00.
7 студзеня – **Усе сабакі трапляюць на Каляды"**, ЗША, мультфільм – у 12.00.
7-12 студзеня. Новы фільм для ўсёй сям'і. **"Тайная крэпасць"** – у 15.00
Перад пачаткам фільма — дыскатэка.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ ІМЯНІНЫ

**4 студзеня**
**Праваслаўныя**: Настассі, Фядоцці, Яўціха.
**Каталіцкія**: Альжбеты, Анелі, Рыгора, Тытуса, Яўгена.

**5 студзеня**
**Праваслаўныя**: Зоціка, Паўла, Феакціста.
**Каталіцкія**: Шымана, Эдуарда, Эміліяна, Яна.

**6 студзеня**
**Праваслаўныя**: Клаўдзіі, Яўгенні, Мікалая.
**Каталіцкія**: ТРЫ КАРАЛІ (Вадохрышча – Богаяўленне Госпаднае), Андрэя.

**7 студзеня**
Нараджэнне Хрыстова па календары праваслаўнай канфесіі

**8 студзеня**
**Праваслаўныя**: Канстанціна, Яфіма.
**Каталіцкія**: Мсціслава, Севярына.

**9 студзеня**
**Праваслаўныя**: Сцяпана, Фёдара.
**Каталіцкія**: Юльяны.

■ ТВАЁ ІМЯ

## Максім

Імя Максім у перакладзе з лацінскай мовы азначае "найвялікшы". Па натуры халерык. Здаецца, што вось-вось узарвецца, але нічога падобнага не адбываецца. Яму ўдаецца быць неперасўзыдзеным пасрэднікам. Максім вынослівы і гнуткі. Добра ведае свае магчымасці. Калі бывае сканцэнтраваным, то можа дасягнуць вышынь у грамадстве. Нераўнадушны да слабага полу. Валодае дарам узаемаразумення і прыроджанай дыпламатыі. Аб'ектыўны. Незвычайна лёгка знаходзіць выхад з любой складанай сітуацыі, вельмі рашучы. Ён умее пераконваць людзей, а калі размова ідзе аб пачуцці кахання, то гэта проста-такі неперасўзыдзены акцёр. Ён зацыклены на сваім гонары.

Асабліва сочыць за тым, каб хто-небудзь не скарыстаўся яго шчодрасцю. Прафесію выбірае такую, якая яму прыемная. У большасці сваёй гэта самавучка, па крайняй меры ў той галіне, што вядзе да поспеху. Ён вучыцца ў жыцці, а не ва універсітэтах. Мае добрую інтуіцыю, і да таго ж нядрэнны псіхолаг. Валодае дзіўнай памяццю, зайздрасным пачуццём гумару. У яго ёсць талент маніпулявання дзеяннямі людзей. Імкнецца быць каханым, але не хоча, каб чыё-небудзь пачуццё стала для яго абузай. На ўсё глядзіць, як валадар свету і гаспадар. Шчыра хоча дапамагчы іншым. У гэтым яму дапамагае незвычайная інтуіцыя. Ён з лёгкасцю раскрывае свае таленты.

У Максіма развіты жывёльны інстынкт да выжывання. Толькі яму неабходныя свежае паветра, адпачынак. Да жыцця адносіцца як да азартнай гульні. Вельмі камунікабельны, у зносінах сардэчны і просты. Калі жэніцца, то іграе ролю нявольніка, каб жонка выконвала яго капрызы і патурала яго слабасцям.

# Ці ўцалеюць нарачанскія вугры

## (Падслуханая размова паміж нарачанскімі впграмі)

**Толькі што пенілася-шумела Нарач, хвалі то набягалі, то адступалі ад берага. Праз некаторы час вецер суцішыўся. Паступова сціхала гайданне хваляў. Выглянула з-за хмар сонейка, усміхнулася і ўглядзелася ў возера-люстэрка.**

Ля самага берага спынілася некалькі вугроў – адзін з іх большага памеру. Рыбіны распачалі паміж сабой гаворку:

— Слухайце, сябры, ці дажывём да таго часу, калі зможам зрабіць вандроўку-падарожжа ў Саргасава мора, за тысячы-тысячы кіламетраў, дзе толькі там адбываецца нераст, ці малькі прыплывуць да берагоў Еўропы? – распачаў гаворку адзін з вугроў.

— Ты, непаседа, будуеш грандыёзныя планы ў сваёй вузкалобай галаве, верыш у светлую будучыню вугравога племя! А не хочаш трапіць на электравуду? – пачуўся голас суседа.

Нейкі час запанавала цішыня. Там-сям былі бачныя лодкі ад гатаўскага берага. Мо' былі рыбакі-аматары са звычайнымі вудачкамі, а мо' браканьеры заядлыя, вопытныя, з тэхнічнымі сродкамі лову рыбы: электравудамі, акумулятарамі. Усяго гэтага вугры не бачылі, не адчувалі пагрозы свайму жыццю і працягвалі гутарку.

— Не гавары лепш пра электравуды ці электрапаравады, падводных плыўцоў-аквалангістаў! Бярэ жах! Аднойчы апынуўся паблізу смертаносных прылад. Цудам уцалеў. Шмат нашага брата загінула. А колькі другой рыбы недалічылася возера. Жах! (Маўчанне). А што ты, Вугар Вугровіч, на хрыбце нейкую тоўстую кнігу цягнеш.

— Гэта "Радавод нарачанскіх вугроў".

— Хочам і мы яго прачытаць! – азвалася некалькі вугроў.

— Чытанне ўсяго напісанага зойме шмат часу. Я лепш перакажу найбольш цікавыя старонкі. Слухайце ўважліва і запамінайце. Хай будзе ўсім вам вядома, што ў Саргасавым моры наш падводны раддом. Нарадзіўшыся там, маленькія вугры даплываюць праз шмат часу да берагоў Францыі, Нямеччыны. Многім удаецца трапіць у рэкі, а па іх і да азёраў дабрацца. Калісьці даўно з Балтыкі малькі траплялі ў Нёман, а далей у Вілію, а па ёй ў раку Нарач, а затым у возера Нарач. Цяпер нізашто сюды не дабрацца, бо на Нёмане пабудавалі плаціны электрастанцыі.

— Дык якім жа чынам мы апынуліся тут, у далечыні ад роднага акіяна? – спытаў недасведчаны малады вугор.

— У 20-х гадах XX стагоддзя прайшло першае масавае зарыбленне Нарачы і суседніх вадаёмаў вуграмі. Такое паўтаралася і ў далейшым. Год 20 таму назад, а таксама і ў іншыя гады асабліва шмат прывезлі сюды ў спецыяльных кантэйнерах малькоў з Францыі, самалётам. Французам заплацілі валютай.

— Кажаш, што адны людзі клапоцяцца, каб у Нарачы было шмат вугроў, а іншыя – каб тых вугроў на электраток, у капцільню, а потым на рынак?

Суцішыліся вугры, задумаліся над сваім лёсам.

— А што яшчэ ў тваім радаводзе? – пачулася пытанне.

— Ёсць вытрымка з кнігі "Мой сум, Нарочча...". Яе аўтар, пісьменнік з прынарачанскай вёскі Сіманы Вячаслаў Лапцік. Слухайце, што ён піша: "Неяк вясной на Нарачы ўбачылі дзіўны малюнак: на паверхню пачаў марудна ўсплываць вугор. Усплываў і зноў апускаўся пад ваду. Прайшло яшчэ два-тры дні, і берагі турбазы "Возера Нарач" ля вёскі Сцепянёва пабялелі ад мёртвай царрыбы"! (стар. 54).

Адны казалі: ад таго, што была гарачыня, у бязветранае надвор'е вада не перамешвалася, не абагачалася кіслародам, а таму вугры задыхнуліся. Другія – што ў Нарач час ад часу траплялі нечыстоты з каналізацыі (праходзіць недалёка ад возера). Хто там ведае праўду.

Неба пахмурнела, блізіўся вечар. А канца размовы не было.

— Як лавілі нашага брата раней?

Лавілі, ды і нямала. Жылося нам лягчэй, бо не мялела возера, з прыазёрнай асфальтавай дарогі не сплываў у ваду мазут з аўтатранспарту. Лавілі, але не варварскім метадам і не ўсіх вугроў без разбору... А толькі тых, што сталі дарослымі, у навальнічныя ночы імкнуліся па рацэ Нарачанцы даплысці ў Вілію, Нёман і далей. Тады рыбакі ставілі на рацэ вугралоўкі. Трапіш – бывай жыццё! На ўсю акругу праславіўся калісьці рыбак з вёскі Наносы Міхаіл Роліч. Вялікі знаўца тоняў, звычак рыб. Кажуць, калісьці паны з Вільні прыязджалі, каб паглядзець на рыбака са славутай Нарачы. А пасля вайны фотапартрэт Міхаіла Роліча ўпрыгожыў вокладку часопіса "Огонёк".

— Вось як! А мне вядома, што з захапленнем пісаў пра Нарач і вугроў Віталь Вольскі (аўтар камедыі "Несцерка"). Паэт-зямляк Мар'ян Дукса прысвяціў адзін са сваіх вершаў вуграм...

Тут перапыніў адзін з невялікіх вугроў:

— Дазвольце мне прадэкламаваць гэты верш:

*I чуе кожны нарачанец,*
*Калі задрэмлюць*
*зморана бары,*
*Духмянымі мурожнымі*
*начамі*
*На ўзбярэжжы*
*шастаюць вугры.*
*Бязногія спяшаюцца*
*ў росы –*
*Абрыдла начаваць*
*на глыбіні...*
*Гуляць ім, небаракам,*
*засталося*
*На Мядзельшчыне*
*лічаныя дні.*

*А заўтра іх у лівень*
*навальнічны,*
*Калі на бераг*
*хлыне ўкляя,*
*Відаць, апошні раз*
*у Атлантычны*
*Пагушкае*
*на хвалях Вілія.*

Ударамі ў вадзе хвастамі, плаўнікамі выказвалі задавальненне і словамі верша, і дэкламатара. А той працягваў:

— Калі былі жывыя Максім Танк, Аркадзь Куляшоў і Міхась Лынькоў (яны мелі дачы побач з вёскай Купа), любілі парыбачыць. Рэдка ім трапляўся вугар, але гэта іх не засмучала. Жартавалі ды частавалі ля вогнішча Якуба Коласа, які прыязджаў адпачыць на Нарач.

— А што яшчэ ў тваёй кнізе напісана? – сказаў адзін з субяседнікаў.

Галоўны летапісец і трымальнік кнігі "Радавод нарачанскіх вугроў" адказаў:

— Ёсць рэкамендацыі трымацца бліжэй Гатаўскіх ямаў – самай вялікай упадзіны на Нарачы. Яна непадалёк ад пансіяната "Сосны" – здраўніцы, якая належыць ураду рэспублікі ці іншаму высокаму ведамству. Адпачываючыя той здраўніцы не стануць лавіць вугроў электравудамі, сеткамі (ім гэта не да гонару). Сюды браканьеры не асмеляцца паказвацца.

Гэты наш радавод я схаваю пад камень ля Гатаўскіх ямаў, пра гэтае будзеце ведаць вы ці іншыя суродзічы.

— Запішыце ў тую кнігу вось такія звесткі: у магазінах пачалі прадаваць кнігі, як лавіць вугроў, карту-схему Нарачы. Усё на нашыя галовы, такія мы безабаронныя!

Зусім звечарэла. Успыхнула святло ў вокнах санаторыя "Нарач", у тургасцініцы "Нарач" і іншых здраўніцах. На возеры была цішыня. I раптам, бы гром, пранеслася музыка... Ды яшчэ якая! Барабаны чуліся мацней за ўсё. Вугры знямелі. З-пад Урлікаў, дзе ля берага на "вечнай стаянцы" застыў катэр-рэстаран ды яшчэ ўпрытык памост-пантон прыліп, неслася гром-музыка, якая глушыла многіх жыхароў Купы ды і насельнікаў азёрных глыбіняў, вадаплаўных птушак – лебедзеў, чаек, качак.

... Вугры пачалі расплывацца ў розныя бакі. У галовах была адна і тая ж думка: як не трапіць пад электраток, у сетку браканьера. Пакуль што субяседнікі не думалі пра Саргасава мора! Як уцалець у Нарачы!

**Гутарку вугроў падслухаў і запісаў Рыбак ГАТАЎСКІ.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАМ

- З/ч да Вольвы-340. Т. у Маладзечне 20184.
- А/м Міцубісі-Кольт, 1987 г. в., на запчасткі, з дакументамі. Тэл. (8-029) 6877017.
- Вольву-440, 1995 г. в., месяц з Германіі, 1.8i, сіні перламутр, ёсць усё, 4300 у. а., торг. Т. у Маладзечне 28327.
- З/ч б/у ФВ-Гольф, Пасат. Тэл. (8-029) 6580594.
- Форд-Сіеру, універсал, 2.3Д, 1988 г. в., 1600 у. а., торг. Т. у Валожыне 58975 (увечары).
- Хонду-Цівік, лістапад 1993 г. в., чырвоны, 2-дзверны, 1.4Б, 3 дні з Германіі; Мерседэс-1114, г/п 5 т, ізатэрма, 1992 г. в., толькі з Германіі; Мерседэс-709, 1990 г. в., мэблевы фургон, 35 м³. Т. у Маладзечне 37170.
- Аўдзі-80 В-4, 1993 г. в., 2.3Е, АВС, г/у, эл/шкло, эл/люстэркі, 4200 у. а.; Аўдзі-80, 1985 г. в., пераходная, выдатны стан, 1400 у. а. Т. у Маладзечне 90138, (8-029) 6228948.
- Опель-Амегу, 12.1987 г. в., чырвоны, 1.8 бензін, выдатны стан, салон люкс, ц/з, г/у, эл/люстэркі, з Германіі 2 месяцы, новыя АКБ і гума. Т. у Маладзечне 63640, (8-029) 6219571.
- VW T-4, 2.4D, 1992 г. в., пасажырскі, доўгі. Тэл. (8-029) 6576034.
- ВАЗ-2106, з Германіі, 1983 г. в., 700 у. а.; ВАЗ-2105, 1985 г. в., 900 у. а. Т. у Маладзечне 40747.
- Рэно-Лагуна, 09.1995 г. в., Крайслер-Неон, 11.1994 г. в. Т. у Маладзечне 40414, (8-029) 6575486.
- ВАЗ-21063, 1990 г. в., 1000 у. а. Т. у Маладзечне 65112.
- Опель-Кадэт, караван, 1990 г. в., 1.4, чырвоны, 1500 у. а. Т. у Маладзечне 62408.
- Шкоду-Фаварыт, 1993 г. в., добры стан, 1400 у. а. Т. у Смаргоні 33456.
- Паўпрычэп ОДАЗ да КамАЗа, г/п 14 тон, даўжыня 9 м, двухвосны. Т. у Смаргоні 36571 (у любы час).
- Рухавік да МТЗ, 500 у. а., або мяняю. Варыянты. Т. у Смаргоні 51410.
- Тэрмінова Форд-Транзіт, 1993 г. в., аб'ём 2.5, дызель. Т. у Вілейцы 64547.
- Аўдзі-100, 1985 г. в., 1800 см³, выдатны стан. Т. у Вілейцы 55020, 33579.
- Форд-Скорпіё, 2.0 бензін, 1985 г. в. Т. у Вілейцы 42263.
- **АЎДЗІ-100 АВАНТ**, 1983 г. в., 1.8 карбюратар, серабрысты, выдатны стан. Тэл. (8-029) 6799159.
- Форд-Мандэо, 1994 г. в., зялёны перламутр; рэно-19, 1994 г. в., зялёны перламутр. Тэл. (8-029) 6544766.
- Аўдзі-80 В-4, 1993 г. в., 2.0Б, цёмна-зялёны металік, эл/люк, новая гума, ц/з, г/у, карэктар фар. Т. у Вілейцы 33223, (8-029) 6254552.
- М/а Мерседэс-210D, легкавы, высокі, доўгі, вішнёвы, лістапад 1994 г. в.; грузавы фургон Рэно-В90, 2.8 турбадызель, спарка, грузападымальнасць 3 т, колер белы, 1990 г. в. Тэл. (8-029) 6583370.
- Рэно-19, 1994 г.экспл., 1.8 моно, г/у, п/б, к/ф, з Германіі. Т. у Маладзечне 31730, 32444.

**Куплю**
трос спідометра, ручку дзвярную, фільтр паветраны, цягу рулявой калонкі да а/м "Ісудзу-Мідзі", 2.4 турбадызель, 1995 г. в.
Тэл. (8-029) 6550799.

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАМ

- Дом у Вілейцы, абмяняю на кватэру. Т. у Вілейцы 53888.
- 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне. Т. у Маладзечне 67443.
- Дом у в. Ручыца з участкам 0,31 га, побач рака. Т. у Вілейцы 57180.

### КУПЛЮ

- Дом у Вілейцы. Т. у Вілейцы 53820 (пасля 18⁰⁰), (8-029) 6531277.
- Дом у Вілейцы. Т. у Вілейцы 59005, (8-029) 6959005.
- Дом у радыусе 15 км ад Маладзечна. Т. у Маладзечне 40523.

### НАЙМУ

- **ГАРАЖ У ВІЛЕЙЦЫ. Тэл. (8-029) 6550799.**
- Аднапакаёвую кватэру або пакой у Маладзечне з 14 па 29 студзеня. Т. у Смаргоні 34031 (увечары).
- Маладая сям'я нойме кватэру або пакой. Т. у Маладзечне 51934.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- **ВЯСЕЛЬНЫЯ І ВЯЧЭРНІЯ ЎБОРЫ:** модныя, элегантныя, новыя паступленні, вэлюм у падарунак. Т. у Маладзечне 39293, (8-029) 6339293. Ліц. №04599 Белбытсаюза18.10.1999-18.10.2004.
- **У САЛОНЕ ВЯСЕЛЬНАЙ МОДЫ "РАКСАЛАНА"** новая калекцыя "Зіма-2003". У падарунак вэлюм. Гасцініца "Маладзечна". Т. у Маладзечне 74109, 51070. Ліц. №00582 Белбытсаюза 4.06.1999-4.06.2004.
- **ВЯЛІКІ ВЫБАР** вясельных і вячэрніх убранняў. Сукенка для маці нявесты — **БЯСПЛАТНА**. Т. у Маладзечне **50825**. Ліц. №03716 Белбытсаюза 13.08.99-13.08.2004.
- **ВЯСЕЛЬНА-ВЯЧЭРНІ САЛОН "МІЛЭДЗІ".** Вялікі выбар. Маладзечна, вул. Буйніцкага, 30. Т. у Маладзечне 77382. Ліц. №03576 БДААБАН 31.01.2002-31.01.2007.
- Вясельныя і вячэрнія сукенкі. Маладзечна, вул. Будаўнікоў, 15а (Дом быту). Т. у Маладзечне 67877 (дам.), (8-029) 6208849. Ліц. №03204 БДААБАН 30.11.2001-30.11.2006.
- **ВЯСЕЛЬНЫЯ І ВЯЧЭРНІЯ ЎБОРЫ.** Вялікі выбар. Усе памеры. **Т. у Вілейцы 55513**, (8-029) 6655513. Ліц. №04123 БДААБАН 24.04.2002-24.04.2007.

### ВІДЭАФОТАЗДЫМКА

- Відэаздымка. Простая і камп'ютэрная апрацоўка. Т. у Маладзечне 39256, 37744. Ліц. №803 МК РБ 5.10.2000-5.10.2005.

### ПЕРАВОЗКІ

- Вадзіцель з асабістым м/а (8 месцаў) шукае работу, прыработак, магчымыя камандзіроўкі ў Польшчу. Тэл. (8-029) 6965929.

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Пракат гульнявых прыставак "Sony PS" і "Sega DC". Дастаўка. Т. у Маладзечне 39379. Ліц. ББС №01796 ад 8.05.2001 г.да 8.05.2006 г.
- Выконваем размол збожжа. Т. у Вілейцы 35113.

## РОЗНАЕ

### ПРАДАМ

**БЫТАВАЯ ТЭХНІКА**

- Малагабарытны халадзільнік нядорага. Т. у Маладзечне 77948.

**МЭБЛЯ**

- Мэблю ў добрым стане; дзверы. Т. у Смаргоні 53890.

**ЖЫВЁЛА**

- Шчанят нямецкай аўчаркі. Т. у Маладзечне 63368, 71301.
- **ШЧАНЯ СЯРЭДНЯАЗІЯЦКАЙ АЎЧАРКІ З РАДАСЛОЎНАЙ. Тэл. (8-029) 6337275.**
- Жарэбчыка, 5 мес., в. Люташ. Т. у Валожыне 45352.
- Кабылу у в. Сакавічы, Куранецкі с/с, Вілейскі р-н, Ягаловіч.

**ІНШАЕ**

- **ПОМНІКІ** з мармуровай крошкі. Якасць, рэальныя цэны. Маладзечна, вул. Бухаўшчына, 58 (каля Палаца культуры). Т. у Маладзечне 70656.
- **КАМП'ЮТЭРЫ PI-PIV, КАМПЛЕКТУЮЧЫЯ, Б/У, ГАРАНТЫЯ. ДАСТАЎКА. Т. у Маладзечне 60583, 64687, (8-029) 6432423.**
- Радыётэлефон далёкага і блізкага радыуса, АОН. Т. у Маладзечне 54087.
- Сотавы тэлефон Філіпс (стан ідэальны, поўны камплект + чахол) да 14.01 падключэнне бясплатна. Т. у Маладзечне 40398, (8-029) 6547641.
- **КАМП'ЮТЭР INTEL, AMD — Б/У. КАМПЛЕКТУЮЧЫЯ, ГАРАНТЫЯ, РАМОНТ. Т. у Маладзечне 54583, (8-029) 6161705.**
- Відэакамеру Panasonik. Т. у Маладзечне 39256.

### КУПЛЮ

- **ФОТААПАРАТЫ**, аб'ектывы, **ГАДЗІННІКІ**, грамафоны, абразы, мэблю, фарфор і іншыя старадаўнія рэчы. Т. у Маладзечне 65542, (8029) 6564854.
- Буйную бульбу, моркву, буракі сталовыя, капусту, цыбулю. Тэл. (8-029) 6877017.
- Пэйджэр б/у. Тэл. (8-029) 6550799, пэйдж.501 (тэл. 8-01773-30020).
- "Статут Вялікага Княства Літоўскага"; кнігу "Памяць. Валожынскі раён". Т. у Маладзечне 61821 (раб.), 76428 (дам.).
- Старадаўнія даваенныя рэчы. Т. у Смаргоні 51245, (8-029) 6313362.

### ЗГУБЛЕНА

- У навагоднюю ноч у р-не СШ №12 прапала сука пароды даберман (чорны акрас). Просім паведаміць інфармацыю за ўзнагароду. Т. у Маладзечне 61716.

### ПАТРАБУЮЦЦА

- Філіял камерцыйнай замежнай фірмы ў Мінску запрашае новых супрацоўнікаў на вакансіі рознага ўзроўню. Т. у Мінску 2140643 (9⁰⁰-13⁰⁰), (8-029) 6140643.
- **РАБОТА Ў МАСКВЕ:** муляры, цесляры-бетоншчыкі, газаэлектразваршчыкі, электрамантажнікі, тынкоўшчыкі-маляры, плітачнікі, сталяры, сантэхнікі, рознарабочыя. Жыллё, рэгістрацыя, медстрахоўка, харчаванне. "Жылбуд". Тэл. (8-029) 6595970.

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Што чакаеце ад года Казы?



**Ірына Раманенка, супрацоўніца ВНУ:**

— А я і сама Каза. Хачу зрабіць прыемнае сыну. Як нам бацька Мапа прыдбае грошы, то куплю нашаму Змеяняці камп'ютэр.



**Яўген Гарбуноў, прадпрымальнік:**

— Хачу купіць камп'ютэр. Грошы папрашу ў жонкі. Калі не дасць, буду шукаць рэзервы на баку.



**Уладзімір Маркун, рабочы:**

— Каб дачка ў ВНУ паступіла. У тэхнікум не хачу. Навошта губляць гады. Пасля 11 класа толькі ў інстытут ісці трэба.



**Сяргей Шушкевіч, беспрацоўны:**

— Хачу з'ездзіць з жонкай летам адпачыць. Толькі грошай яшчэ няма. Прадам машыну – будуць. А дачцэ веласіпед куплю.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

■ НАДВОР'Е

| Мінск | 3.01 дзень | 3.01 вечар | 4.01 дзень | 4.01 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 715 | 716 | 724 | 725 |
| тэмпература паветра, °С | 1 – -1 | 1 – -1 | -7 – -9 | -9 – -11 |
| вільготнасць паветра, % | 98 | 98 | 97 | 98 |
| вецер, м/сек | 1-3 | 1-3 | 1-3 | 1-3 |

| Вільня | 3.01 дзень | 3.01 вечар | 4.01 дзень | 4.01 вечар |
|---|---|---|---|---|
| ападкі | | | | |
| атмасферны ціск, мм | 723 | 726 | 733 | 733 |
| тэмпература паветра, °С | -1 – -3 | -4 – -6 | -9 – -11 | -11 – -13 |
| вільготнасць паветра, % | 98 | 96 | 97 | 98 |
| вецер, м/сек | 2-5 | 4-7 | 1-3 | 1-3 |

## Чытайце праз тыдзень:

- **«Казлу» – 30 год.** Юбілей аднай з самых папулярных аўтамабільных марак на тэрыторыі СНД справілі напярэдадні Новага года.
- **Крок наперад, крок назад.** Апошні Дэкрэт прэзідэнта спрашчае жыццё чыноўнікам. Каментарый да падзеі юрыста Сяргея Балыкіна.

## Гараскоп 6 – 12 студзеня



**Авен (21.03–20.04)**

Звычайна вы добра арганізаваны чалавек, але часам трапляеце ў цяжкае становішча. Планеты менавіта намякаюць на гэта. Завяршыце ўсё, што пачалі, не ешце, што папала, бо можаце атруціцца, магчыма, рыбай.



**Цялец (21.04–21.05)**

Захоўвайце асцярожнасць у сітуацыях, якія могуць аказацца аварыйнымі. У вас пад'ём творчых сіл, выкарыстоўвайце іх так, каб заставаўся час на чытанне. Не пужайцеся складанай літаратуры, вы яе засвоіце.



**Блізняты (22.05–21.06)**

У гэты перыяд вы праявіце актыўнасць у грамадскай дзейнасці, сярод вялікага зборышча людзей. Хутчэй за ўсё гэта будзе тым ці іншым чынам звязана з работай і вашымі прафесійнымі абавязкамі. У некаторых выпадках – з вашымі асабістымі планамі і жаданнямі.



**Рак (22.06–23.07)**

Гэты перыяд падыходзіць для таго, каб усцешыцца прыемнай кампаніяй сяброў і сапратнікаў. Вы будзеце ў цэнтры ўвагі ў сваіх слухачоў, кім бы яны ні былі – суседзямі па лесвічнай пляцоўцы, гледачамі ў зале ці кліентамі фірмы.



**Леў (24.07–23.08)**

Некаторыя Львы вельмі здзівяць навакольных людзей сваімі паводзінамі і нечаканымі ўчынкамі, якія ніяк не стасуюцца з прывычным для ўсіх стылем іх жыцця. Такая іх натура – дня не могуць пражыць, каб не здзівіць каго-небудзь. Не выключана абвастрэнне хранічных захворванняў.



**Дзева (24.08–23.09)**

Вы будзеце празмерна апякаць сям'ю, абмяжоўваць ініцыятыву, што выкліча раздражненне ў блізкіх. Па магчымасці адмоўцеся ад прыёму гасцей і паходаў у госці – паклапаціцеся аб сваім здароўі.



**Шалі (24.09–23.10)**

Іншыя будуць ці падманваць саміх сябе, ці будуць хацець падмануць вас. Цяпер, калі вас папярэдзілі, вы будзеце напагатове і станеце адносіцца да ўсяго, што яны скажуць вам, з меншым даверам. Акрамя таго, калі вы пакутуеце на харчовую алергію, праяўляйце асаблівую асцярожнасць у адносінах яды, інакш вы рызыкуеце захварэць і нават трапіць на бальнічны ложак.



**Скарпіён (24.10–22.11)**

У гэты перыяд, магчыма, у вас узнікне вострае пачуццё незадаволенасці. Асабістыя адносіны будуць складвацца не так, як хацелася б вам. Але гэта ненадоўга.



**Стралец (23.11–21.12)**

Не рэкамендуецца займацца справамі, звязанымі з рызыкай, азартнымі гульнямі. Спрыяе адпачынак у сям'і, прагулкі ў адзіноце. У другой палове перыяду рыхтуйцеся пачуць прыемную нечаканую навіну.



**Казярог (22.12–20.01)**

Гэты перыяд вельмі падыходзіць для паляпшэння стану здароўя і папаўнення фізічнага патэнцыялу. Наведайце трэнажорную залу, басейн ці проста пачніце рабіць ранічную зарадку.



**Вадалей (21.01–19.02)**

Гэта перыяд самаабароны, адстойвання сваіх прынцыпаў. Уплыў некаторых планет на вашае жыццё бачна аслабне. Праявіце ўласцівую вам здольнасць да аналізу, мяккасць і сціпласць, вы зможаце змяніць сітуацыю да лепшага.



**Рыбы (20.02–20.03)**

На жаль, зоркі некалькі змянілі сваё становішча. Гэта азначае ці пустую трату грошай, ці тое, што хтосьці падманам паспрабуе выманіць у вас кругленькую суму. Вам трэба быць больш асцярожнымі. Варта не давяраць нават уласным вачам.

## Адкуль прывезлі елку?

**ВАЛОЖЫН. Да сёлетніх навагодніх святаў лясгас нарыхтаваў прыкладна 6 тысяч елак. Год таму – больш за 7 тысяч.**



Дырэктар лясгаса Іван Віршыч тлумачыць гэта тым, што ў людзей няма грошай, каб купіць елку. Лясгас прадаваў іх у 2-х мінскіх пунктах. Але ў Валожыне разыходзяцца больш і хутчэй. "І так штогод", — зазначае І.Віршыч.

На Валожыншчыне расце 18 гектараў яловых насаджэнняў. Гэта 20% ад усёй колькасці лесу. Высечка елак справа не аднаго дня. Высякаць іх можна, калі ад пасадкі пройдзе 8 гадоў. Маленькія елачкі ссякаюць уручную. Вялікія спілоўваюць бензапілой. Як і 25-метровую елку, што стаіць на галоўнай плошчы райцэнтра. Да 20 гадоў дрэва расце марудна, а потым – хутка. Елка можа жыць 150-200 гадоў. З 80-100 гадоў яна лічыцца спелай, і яе можна выкарыстоўваць на драўніну.

У сувязі з пацяпленнем клімату, паніжэннем грунтовых вод, елкі засыхаюць. "Апошняе масавае ўсыханне гэтых дрэў было 200 гадоў таму", — гаворыць дырэктар лясгаса. – На поўдні Беларусі елак наогул няма. Яны сохнуць і ў Польшчы, і ў Расіі".

У Валожынскім лясгасе нават вопыт па падкормцы елак праводзілі. "Але нічога гэта не дае, — кажа І.Віршыч. – Ды і хаця б угнаенняў на падкормку палёў хапіла".

Догляд за елкамі адзіны – высечка лесу дзеля яго ачысткі.

**Ірына РАБУШКА.**



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)

Рэгіянальная газета

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **10300 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№ 1 (402) 3.01.2003**. РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 1. Падпісана ў друк у 13.00 2.01.2003

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: regionnews@promedia.by**
**http://regionnews.promedia.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444